# КРЫВІНКА

САКАВІК
№ 5 (141)
2014 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## РОЗДУМ ПАСЛЯ ГАЛАСАВАННЯ

**Галасаванне скончылася. Паціху змяншаецца колькасць тэлефонных званкоў, дзе людзі цікавяцца ў мяне, як усё адбывалася. Адны віншуюць з баявым хрышчэннем, іншыя разачараваныя вынікамі.**

Застаецца падсумаваць перажытае, у першую чаргу для сябе самога.

Я прысутнічаў у дзень выбараў на падліку галасоў. Яны лічыліся з 20-00 да 23-30. Мне не было ніякай магчымасці бачыць, якія бюлетэні пададзены за майго канкурэнта, як там пазначана воля выбаршчыка. Калі ўсё чэсна – дык пакажыце сваю праўду! Але кіраўніцтва камісіі кажа, што гэта нельга..

Скажам, на стале, дзе раскладаюць бюлетэні, няма аніякіх картак з прозвішчамі кандыдатаў, якія былі б бачныя здалёк. Па іх назіральнікі маглі б арыентавацца, стос якога кандыдата таўсцейшая. А так старшыня бярэ чарговы стос нечых бюлетэняў, складзеных па 50 штук, і, у залежнасці ад абстаноўкі ці ўстаноўкі, аб'яўляе сваю волю…

Галоўнае і самае істотнае для выбарцаў адбываецца да выбараў, калі фарміруюць камісіі. Іх у беларускім грамадстве заўсёды ачольвае высокааплачваемы чыноўнік, якому ёсць што губляць у выпадку паразы, і які таму мусіць адстрэльвацца да апошняга патрона, калі для гэтага ўзнікне неабходнасць.

Але найчасцей гэтага рабіць не трэба. Выбарчая сістэма лукашэнкаўскіх камісій адпрацавана так, што на подступах да сапраўднага бою агонь на сябе бяруць шараговыя сябры камісіі, якія прынімаюць датэрміновых выбарцаў. Яны, парушаючы заканадаўства, задаюць выбарцам пытанні, кшталту "за каго вы будзеце галасаваць?" або "ці не хочаце прагаласаваць за іншага?", пераўтвараючы выбары ў простую фармальнасць.

Калі лічыць вынікі выбараў аб'ектыўнымі, сённяшнюю большасць грамадства цалкам задавальняе, што ў чарговы раз выразнікамі народных інтарэсаў будуць тыя, хто мае заробкі ў 5-10-30 разоў большыя, чым у саміх выбарцаў. Хто мусіў бы слугаваць народу: рамантаваць дарогі, асушаць падвалы, збіраць смецце. А "выбраннікі", седзячы ў чыноўніцкім крэсле, гэтым сябе абцяжарваць зноў не будуць.

Таму мы зноў будзем мець тысячы нявырашаных пытанняў, галавакружэльны разрыў у заробках рабочага і чыноўніка, і тысячы маленькіх крыўдаў.

Тыя ж, хто не хацеў такога развіцця падзей і галасаваў за мяне(а па раёне гэта лічба складае 684 чалавекі – шчыры ім дзякуй і нізкі паклон) ці супраць усіх(541 чалавек), хацелі б такую сітуацыю нейкім чынам змяніць. Але, на жаль, гэтага зноў не адбылося. Дый не зменіць карэнным чынам адзін чалавек тую страшную сітуацыю, якая сёння складаецца ў нашым грамадстве. Ён можа хіба што зрабіць агалоску нейкіх негатыўных фактаў, прыцягнуць да іх увагу грамадства.

Няўжо астатнія 11 600 чалавек – 90% выбарцаў, хто галасаваў за праўладнага чыноўніка, такія абыякавыя? Няўжо яны не разумеюць трагічнасці сітуацыі? Не, сітуацыю яны, мусіць, разумеюць, але не прывыклі ні самі вылучацца, ні неяк на тую сітуацыю ўплываць. Гэткія Homo sovetikus, якім заўсёды было добра.

Многія з іх цалкам добрасумленныя людзі, якія шчыра вераць таму ж чыноўніку і гатовыя аддана працаваць на ягоны аўтарытэт. Зразумела, што добрая 1000 выбарцаў у раёне – гэта самі чыноўнікі, іхнія блізкія і сябры.

Але ці не пераважная бальшыня іншая. Сёння тыя людзі выязджаюць на працу, папярэдне завітаўшы ў краму і купіўшы бутэльку чарніла. Гэта яны згодныя выканаць любую работу, абы толькі налівалі. Гэта ім да лямпачкі, хто і чаму вылучаецца на выбарах. Гэта іх гоняць на датэрміновыя выбары і паказваюць у камісіях, дзе яны мусяць паставіць крыжык. Гэта яны паміраюць кожны дзень у бальніцах, часта не пражыўшы і паўжыцця.

Яны не чытаюць аніякіх газет, не ходзяць у інтэрнэт. Многія з іх чытаюць толькі налепкі на бутэльках.

Гэта – апора існай сістэмы.

**Г.Станкевіч**

## ШТО ТЫ ПЛАЧАШ?..

*Што ты плачаш па*
*Радзіме памерлай*
*і чакаеш манны боскае зь неба?*
*Што ты сыплеш перад*
*сьвіньнямі перлы –*
*шчэ ня ўмерла Беларусь,*
*шчэ ня ўмерла!*

*Хоць у нас, як кажуць,*
*вольнаму воля,*
*толькі сьлёзкі ліць*
*старайся ты ўпотай.*
*Да цябе лілі джджы тут даволі,*
*бачыш, лужыны стаяць*
*каля плота.*

*Смокчуць кроў з тваіх грудзей*
*крывасмокі,*
*і спраўляюць чорны баль ліхадзеі.*
*Досыць мо табе крывавых урокаў*
*і шалёнага разгулу вандэі?*

*Ты не плачся, што ты голы і босы –*
*у цябе багацьця мерай ня зьмерыць –*
*галаву ўзьнімі і глянь у нябёсы,*
*да сябе любую зорку прымерай.*

*Сьмела біцца загадай*
*свайму сэрцу,*
*шчырым сьмехам разамкні*
*свае вусны,*
*і ў адказ твая Краіна ўсьміхнецца*
*і пазбудзецца нядолі пакутнай.*

*Выйдзі, выйдзі да яе на сустрэчу,*
*апрані свае сьвяточныя строі,*
*разгарні свае магутныя плечы –*
*Беларусі так бракуе герояў!*

*Што ты плачаш па*
*Радзіме памерлай*
*і чакаеш манны боскае з неба?*
*Што ты сыплеш перад*
*сьвіньнямі перлы –*
*шчэ ня ўмерла Беларусь,*
*шчэ ня ўмерла!*

***Г.Станкевіч***



СВАБОДА СЛОВА

## ЧАРГОВАЯ СПРАВА СУПРАЦЬ "КРЫВІНКІ"

**Удзень 27-га сакавіка ў школу да Станкевіча Георгія завітаў старэйшы оперупаўнаважаны Бешанковіцкага РАУС Д. Карась.**

Напярэдадні ён збіраў паказанні супраць "Крывінкі" на Бешанковіцкім рынку сярод прадпрымальнікаў.

Г.Станкевіч запрапанаваў весці ўсю справу на беларускай мове, адмовіўся падпісваць пратакол, складзены па-расейску і накіраваў скаргу на неправамерныя дзеянні міліцыянта ягонаму начальніку.

Нагадаем, што гэта ўжо трэці працэс супраць незалежнай газеты. Дзіўным чынам усе папярэднія былі звязаныя таксама з выбарамі. Калі першы працэс закончыўся штрафам у 20 мінімалак, другі ўжо ў 40. Максімальны штраф па артыкулу прадугледжвае 50 мінімальных заробкаў.

Рэдактар газеты "Крывінка" рэгулярна дасылае кожны нумар свайго выдання ў Мінск у Прэзідэнцкую, Нацыянальную і Цэнтральную навуковую бібліятэкі, Міністэрства інфармацыі і Нацыянальную кніжную палату Беларусі. Адтуль прэтэнзій да выдання пакуль што не паступала.

**М.Васільеў**

МЯСЦОВЫЯ ВЫБАРЫ

## ЧЫНОЎНІКІ АТРЫМАЛІ ДАВЕР НАРОДА

**Выбары, якія праходзілі цэлы мінулы тыдзень, паказалі упэўненую перамогу адпрацаванай чыноўніцкай выбарчай машыны. Як і прагназавалася, усе 35 бешанковіцкіх "прадстаўнікоў народа" лёгка набралі патрэбную колькасць галасоў для атрымання дэпутацкага мандата.**

На тым участку, дзе была адзіная альтэрнатыва, за прадстаўніка ўлады У.Кухто прагаласавала 236 чалавек, а за Г. Станкевіча толькі 76.

Асаблівая ўражлівая перавага чыноўніка была за 5 дзён датэрміновага галасавання, дзе ён меў 165 галасоў супраць 29-ці ў Станкевіча.

Колькасць выбарцаў, якія прагаласавалі тут датэрмінова склала больш за 62% ад колькасці прагаласаваўшых.

Яшчэ цікавыя лічбы: па Пушкінскай выбарчай акрузе №13 у выбарах прынялі ўдзел толькі 335 чалавек з 549, або 61%. То-бок фактычна за У.Кухто прагаласавала толькі 43% ад усіх выбарцаў.

**М.Васільеў**

ПРАБЛЕМЫ РЫНКУ

## ПРАДПРЫМАЛЬНІЦКІЯ ЦЯЖКАСЦІ

**У нядзелю 16-га сакавіка ранкам падмарозіла. Але веснавы адзін градус ніжэй нуля – гэта не мароз. Тым не менш на Бешанковіцкім рынку гэты мароз некаторым прадпрымальнікам каштаваў нерваў.**

Рэч у тым, што раённая санітарна-эпідэміялагічная станцыя забараняе гандляваць садавінай і гароднінай пры мінусавых тэмпературах. Вось і сакавіцкія "мінус адзін" былі скарыстаныя імі для чарговага наезду на тых, хто нас корміць.

Але сапраўдная прычына наезду, думаецца, зусім іншая: прадпрымальніцкія даходы не даюць спакою раённаму спажывецкаму таварыству (РайСТ). Прадукцыя іхніх магазінаў абсалютна неканкурэнтназдольная ў параўнанні з прадпрымальніцкай як па знешняму выгляду, так і па смакавых вартасцях.

Каліпараўнаць, скажам, месячныя аб'ём продажу садавіны ў прадпрымальнікаў і РайСТ, то ён акажацца большым у першых за яўнай перавагай.

І нават дробныя паскудствы, кшталту забароны гандлю садавінай, думаецца, аніяк не паўплываюць на тыя аб'ёмы.

Тыяж, хто сочыць за сваім харчаваннем і стараецца ўжываць больш садавіны і гародніны, скажа прадпрымальнікам Бешанковіцкага рынку шчыры дзякуй.

**Г.Станкевіч**

СТЫЛЬ ПРАЦЫ

# ЯК ВЫКОНВАЮЦЦА І КАНТРАЛЮЮЦЦА ЗВАРОТЫ

**На фотаздымку, які зроблены 19-га сакавіка 2014-га года, вы бачыце пяцідзесяцімятровы ўчастак вуліцы Лугаўскога ад магазіна "Пралеска" у бок СШ №1.**

17-га чэрвеня 2011-га года, сабраўшы подпісы грамадзян, я звярнуўся ў Бешанковіцкі райвыканкам. Мы прасілі зрабіць асфальтабетоннае дарожнае пакрыццё гэтага 50-мятровага ўчастка вуліцы Лугаўскога ад вуліцы Урыцкага ў бок мікрараёна Моладзевы.

У звароце падкрэслівалася, што гэты 50-мятровы ўчастак дарогі з'яўляецца найкарацейшым шляхам з цэнтра горада да СШ №1, па якому штодзённа праязджаюць сотні аўтамашын.

Тыдні праз тры з райвыканкама прыйшоў ліст, дзе паведамлялася, што "у сувязі з недахопам выдзеленых на 2012-ы год сродкаў… выканаць работы … немагчыма."

Наступны ліст прыйшоў 20.09.2012-га, у якім паведамлялася, што "пытанне фінансавання будзе разгледжана пры фармаванні бюджэта на 2013-ы год".

Чарговы ліст ад 06.03.2013-га паведамляў, што "выканаць работы па пакладцы асфальтабетоннага пакрыцця … немагчыма, у веснавы перыяд будзе праведзена прафіляванне пакрыцця".

У лісце ад 29.04 2013-га пацвярджалася, што "выканаць работы па пакладцы асфальтабетоннага пакрыцця … немагчыма. У красавіку бягучага года праведзена прафіляванне гравійнага пакрыцця."

**Г.Станкевіч**

СУСВЕТНЫ РЭЙТЫНГ

# БАЯВАЯ МАГУТНАСЦЬ — БЕЛАРУСЬ ПАСЯРЭДЗІНЕ

**Спэцыялісты з дасьледчыцкай групы Global Firepower склалі сьпіс 106 краінаў паводле ўзроўню іх баявой магутнасьці. Першыя тры месцы займаюць ЗША, Расея і Кітай.**

Сьпіс складаецца паводле больш як 50 парамэтраў, якія дазваляюць комплексна ацаніць вайсковую магутнасьць краінаў. У разьлік не бярэцца ядзерны патэнцыял. Індэкс вылічваецца на падставе ацэнкі звычайных ваенных узбраеньняў, разьмешчаных на зямлі, на моры і ў паветры. Карэктыроўкі (бонусы або мінусы) праводзяцца паводле дадатковых крытэраў, напрыклад, высокага або нізкага ўзроўню спажываньня гаручага.

Топ-10 найбольш магутных краін:

1. ЗША 2. Расея 3. Кітай 4. Індыя 5. Вялікабрытанія 6. Францыя 7. Нямеччына 8. Турцыя 9. Паўднёвая Карэя 10.Японія

Беларусь займае 52-ю пазыцыю паміж Румыніяй і Партугаліяй. Паводле зьвестак Global Firepower, у Беларусі штогод прызыўнага ўзросту дасягаюць 100 615 юнакоў, у арміі праходзяць службу 62 000, у рэзэрве знаходзяцца 290 000, усяго вайсковаабавязаных 3 706 027 чалавек. У Беларусі 1756 танкаў, 2321 браніраваных баявых машын, 180 самалётаў, 56 верталётаў. Бюджэт абароны складае 750 мільёнаў даляраў на год (для параўнаньня: ў Расеі — 76,6 мільярдаў).

Украіна займае 21 радок. Адметна, што суседка Беларусі — Літва, якая ўваходзіць у НАТО, мае армію з 15 тысяч вайскоўцаў і траціць на абарону 430 мільёнаў даляраў. Літва знаходзіцца амаль у самым канцы сьпісу — на 103 месцы са 106.

Сьпіс складаецца спэцыялістамі пад эгідай аднаго з найстарэйшых брытанскіх унівэрсытэтаў Сьвятога Эндру (University of St Andrews).

Публікацыю на сайце суправаджае эпіграф Бэртрана Расэла, брытанскага матэматыка, філёзафа, ляўрэата Нобэлеўскай прэміі па літаратуры: «Вайна не вырашае, хто мае рацыю, толькі тое, хто застанецца».

**Радыё Свабода**

НАШЫ ПРАБЛЕМЫ

# ДОМ № 32 ПА ВУЛІЦЫ ЧАРНЯХОЎСКАГА

Гэта адзін з некалькіх дзесяткаў шматпавярховікаў у Бешанковічах, які нічым не адрозніваецца ад іншых. У яго такія ж самыя праблемы і перспектывы іх вырашэння, як і ў яго ных сабрацця ў. Тыя ж пабітыя дарогі, дзе можна зламаць ногі. Тыя ж падвалы, дзе плесень і сырасць. Тут жывуць тыя ж людзі, якія ўжо адчаіліся адшукаць калі-небудзь сваю праўду.

Адрозненне ад іншых дамоў у дома №32 можа быць толькі адно: дарогі каля самога дома тут няма зусім, яна правалілася цалкам. Здымак, які паказвае ўвесь жах прыдамавой тэрыторыі блізу дома №32, пацвярджае мае словы.

Калі я збіраў тут подпісы, то казаў людзям, што маёй першай дэпутацкай акцыяй будзе вырашэнне менавіта іх дарожнай праблемы.

А для вырашэння яе патрэбна няшмогае: тры ці чатыры "МАЗы" рубаўскай шчабёнкі. Прыкатаная, яна стаіць не горш за асфальт. На жывёлаводчыя комплексы яе возяць з Рубы тысячамі тон.

Толькі хто і калі ў нас паклапаціўся пра чалавека?

**Г.Станкевіч**

# ВЁСКА, ДА ЯКОЙ НЯМА ДАРОГІ

**Вёска Забор'е Бешанковіцкага раёна, пра якую 24-га сакавіка распавёў канал АНТ, не адзіная ў сваёй іпастасі. Да вёскі Дубраўка Верхнякрывінскага сельскага савета сёння таксама няма праезда.**

Калі ў жніўні мінулага года я рабіў артыкул пра гэту вёску, то зрабіў здымкі небяспечнага ўчастка дарогі. "З-за гэтага ўчастка дарогі цэлую вясну да Дуброўкі не даходзіла аўталаўка. Цікава, ці адрамантуюць яго да восені?"– стаяла на сайце beshankovichy.by.

Дарогу не толькі не адрамантавалі, а за зіму нават цалкам знішчылі. Па сведчанням мясцовых жыхароў, перад Новым годам сюды паехаў лясгас па нарыхтоўку навагодніх елачак. Незамёрзлую вільготную зямлю цяжкавозы парэзалі калеямі. Як вынік вясной дарога стала цалкам непраезджай.

Патрабуе мінімума ўвагі і кладка, што лучыць вёску са светам з другога боку вёскі. Адзін яе канец зваліўся з бетоннай тумбы, і кладка ледзь-ледзь трымаецца. Калі б павадак быў большы, кладку б знесла.

Зараз, каб выйсці да аўталаўкі, дубраўцам трэба пераадольваць паўтара кіламетра гразкай дарогі. Таму ходзяць яны да лаўкі толькі раз на тыдзень.

Выручае конь, які ў экстрэнным выпадку заменіць "хуткую дапамогу". Хаця да яе лепш было б ніколі не звяртацца.

**Г.Станкевіч**

ЗДАРЭННІ

# ЗАСТАЛІСЯ ТОЛЬКІ РОЖКІ ДЫ НОЖКІ

**Вечарам 25-га сакавіка на раённым стадыёне згарэў шчытавы домік, дзе раней захоўвалі спартыўнае начынне.**

Згодна адной з версій, яго спалілі падлеткі, якія палілі ў тамбуры цыгарэты. Недапалак зваліўся праз шчыліну ў падлозе, што, магчыма, і паслужыла прычынай пажару.

Калі пажар заўважылі, патушыць яго самім было немагчыма. Пажарныя прыехалі даволі хутка і агонь збілі. Але ад доміка засталіся толькі рожкі ды ножкі.

**У.Ліпскі**

НАША ПАМЯЦЬ

# ДАРОГА ДА ВЕРХНЯКРЫВІНСКІХ МОГІЛАК

**Сёння яна выглядае ўжо больш менш прыстойна. І за тое трэба дзякаваць добраму надвор'ю, што за ўвесь сакавік сапсавалася толькі аднойчы і ненадоўга. Але яшчэ тыдзень таму на могілкі было цяжка дабрацца.**

З тым, што гэта дарога мусіла б быць заўсёды ў добрым стане, ніхто спрачацца не стане. Бо ніхто не ведае, калі праб'е яго апошняя часіна – у сухмень ці ў распуцiцу.

Апошняя наша дарога праходзіць паўз калгасную майстэрню, дзе яна яшчэ добрая. А потым застаецца яшчэ каля кіламетра мучэнняў.

Гэту дарогу разбіла калгасная тэхніка, калі восенню вывозілі з поля кукурузу, а потым яшчэ карысталіся дарогай і ўзімку, каб вывезці на поле гной.

Адрамантаваць жа за сабой разрэзаннае каляінамі дарожнае палатно ў калгасных ці раённых кіроўцаў, відавочна, вялікага жадання няма. Самі яны плануюць для сябе іншыя могілкі, з добрым пад'ездам.

Здавалася б, такія вялізныя грошы за апошнія год-два былі ўкладзены ў верхнякрывінскі мехдвор і зернесушыльную гаспадарку. Аднаго паўпрацэнта гэтай сумы, выдзеленага для народа, хапіла б, каб зняць пытанне не толькі аб дарозе на могілкі.

А яна па-ранейшаму занядбаная…

**Г.Станкевіч**

НАША ЖЫЦЦЁ

# НАВІНЫ ДЗВІНСКАЙ ПЕРАПРАВЫ

**Ранкам 18-га сакавіка добра падмарозіла. Месцамі тэмпература паветра апусцілася да –12 градусаў. Па Заходняй Дзвіне ў Бешанковічах пайшоў шарош. Але тое не перашкодзіла працы лодачнай пераправы: людзі спяшаліся – хто на работу, а хто ў школу.**

Па-ранейшаму яны перапраўляліся на прыватных лодках, якія перасякаюць Дзвіну на вёслах. Па-ранейшаму на рачным беразе не было зручнага месца для пасадкі-высадкі пасажыраў. Па-ранейшаму чатыры школьнікі з зарэчча двойчы на дзень перасякаюць Дзвіну, каб трапіць у школу і вярнуцца дахаты.

За цэлы тыдзень, што прайшоў з пачатку працы лодачнай переправы, на пераправе праз Дзвіну так і не з'явілася абсталяваная ратавальнымі прыстасаваннямі камунгасаўская лодка.

І толькі пачынаючы з пятніцы 21-га сакавіка на пераправе праз Заходнюю Дзвіну запрацаваў "Камунальнік". Пра тое сведчыць, знакаміты вагончык, што зноў з'явіўся на беразе Дзвіны. Цяпер тым, хто перасякае раку, не трэба плаціць 20 000 рублёў за адзін пераезд, як тое бралі прыватнікі.

Яшчэ адным плюсам з'яўляецца тое, што на лёдзе ляжыць збіты з дошак трап, на які мусяць высаджвацца пасажыры з лодкі. Праўда, трап той збіты неахайна, ён больш пасуе для жывёлы, чым для людзей. І людзі ім не карыстаюцца. Бо начальства загадала яго збіць дзеля блізіру, толькі каб адчапіцца.

Лодка на пераправе цяпер маторная, а, значыць, перапраўляцца можна будзе значна хутчэй, чым раней.

**Г.Станкевіч**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на папеы.***

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# РАСІЯ КІДАЕ ВЫКЛІК СУСВЕТНАМУ ПАРАДКУ

**Журналіст-аналітык "Радыё Свабода" Юры Дракахруст разважае пра Крымскія падзеі.**

Прамова Уладзімера Пуціна і рашэньне Фэдэральнага сходу Расеі пра далучэньне Крыма да РФ — выклік сусьветнаму сьветапарадку.

Прэзыдэнт Расеі ў сваёй прамове спасылаўся на досьвед Косава. Але Косава не было далучанае ні да воднай заходняй краіны, яму забаранілі далучацца нават да Альбаніі. Крым далучаецца да Расеі ў якасьці яе рэгіёна. Нагадаю, гэта тое, што 12 гадоў таму Пуцін прапаноўваў Беларусі.

Да таго ж даволі злавесна прагучалі словы Пуціна наконт таго, што паўднёвыя і ўсходнія рэгіёны Ўкраіны былі незаконна далучаныя да Ўкраіны бальшавікамі. Ён, праўда, агаварыўся, што Расея, акрамя Крыму, больш ні на што не прэтэндуе ва Ўкраіне.

Параўноўваць цяперашнюю палітыку Расеі з палітыкай Гітлера ў 30 гадах — можа і кепскі тон, ёсьць істотныя адрозьненьні. Але пасьля анэксіі Судэтаў нацысцкі ўрад заяўляў, што больш ні на што не прэтэндуе. Празь некалькі месяцаў пасьля гэтых заяваў вэрмахт заняў усю тэрыторыю Чэхіі, далучыўшы яе да Трэцяга Рэйху.

Абхазію і Паўднёвую Асэтыю можна было палічыць ізаляваным эпізодам. Зараз вымалёўваецца пэўная тэндэнцыя. Папросту кажучы, хто наступны? І што можа стрымаць гэты марш Расеі?

Пакуль Захад увёў толькі пэрсанальныя санкцыі адносна пары дзясяткаў расейскіх палітыкаў і урадоўцаў. Гэтыя санкцыі выглядаюць ня надта сур'ёзнымі, асабліва ў сьвятле санкцый, пад якімі знаходзіцца ўжо 3 гады афіцыйны Менск. Лукашэнка сілай разагнаў маніфэстацыю, пасадзіў некалькі дзесяткаў чалавек. У яго пад санкцыямі каля 200 чалавек, уключна зь ім самім. Расея анэксавала ладны кавалак тэрыторыі іншай дзяржавы, на якім жыве 2 мільёны чалавек. Пад санкцыі патрапіў ажно (!) 21 чыноўнік.

Аднак неабавязкова, што Захад па змаўчаньні праглыне анэксію Крыму. Ужо шмат хто адзначыў, што палітыка Пуціна — гэта вяртаньне ў XIX стагодзьдзе. Можа, гэта з гонарам прызнаў бы і сам прэзыдэнт Расеі, мауляў, прэч сьвет міжнароднага права, у якім вышэйшы судзьдзя — Злучаныя Штаты. Але варта прыгадаць, што XIX стагодзьдзе было векам шматлікіх войнаў. Так, тады ня надта клапаціліся пра міжнароднае права і ўнівэрсальныя прынцыпы. Але вельмі клапаціліся пра бясьпеку, пра захаваньне сілавога балянсу. Ёсьць пэўны сымбалізм у тым, што Пуцін гаварыў сваю прамову ў дзень, калі ў 1856 годзе скончылася Крымская вайна, якую Расея прайграла.

Адказ можа быць не прамым, але істотным. Калі Захад палічыць Расею небясьпечным ворагам, можа чакаць паступовага скарачэньня гандлю, у тым ліку і імпарту расейскіх энэрганосьбітаў, закрыцьцё доступу Расеі да сучасных тэхналёгіяў, прасоўваньне інфраструктуры НАТА бліжэй да межаў Расеі, у тым ліку і ва Ўкраіну, росту (нарэшце) ваенных выдаткаў у краінах Эўразьвязу, якія апошнія гадоў 10 іх увесь час скарачалі.

І матыў — не парушэньне міжнароднага права, матыў — пагроза, якую ўяўляе сабой Расея, якая дазваляе сабе анэксаваць тэрыторыі суседзяў і канчатковыя мэты якой незразумелыя.

Пра гэта, дарэчы, ў разгар крызісу вакол Крыму гаварыў начальнік камітэту начальнікаў штабоў ЗША Дэмпсі, паводле яго «калі дазволіць Расеі ўрывацца ў сувэрэнныя дзяржавы, матывуючы гэта абаронай этнічных рускіх, пад пагрозай дэстабілізацыі апынецца ўся Ўсходняя Эўропа і Бальканы».

Вялікабрытанія і Францыя ў 1853 годзе абвясьцілі вайну Расеі не таму, што яна парушыла міжнароднае права, а таму, што ўбачылі ў яе дзеяньнях пагрозу бясьпецы ў Эўропе і Азіі. Сардэчна запрашаем у XIX стагодзьдзе.

Доўгатэрміновыя наступствы гэтай геапалітычнай зьмены для Беларусі — тэма асобнай размовы. Але зараз перад афіцыйным Менскам наўпроставы выклік — прызнаньне альбо непрызнаньне пашырэньня межаў саюзьніка.

Хутчэй за ўсё, беларускія ўлады будуць усяляк пазьбягаць прамога адказу. Нагадаю, што месяц таму сам Лукашэнка, а тры тыдні таму ягоны міністар замежных справаў Уладзімер Макей казалі пра прыхільнасьць тэрытарыяльнай цэласнасьці Ўкраіны. Цяпер гэтая цэласнасьць відавочным чынам парушаная.

Зь іншага боку, паколькі Расея ўключыла Крым у свой склад, то прызнаваць Расею ў Беларусі ня мае патрэбы, яна і так яе прызнае. Мяркую, што будуць вылучацца нейкія такія аргумэнты, каб не патрапіць пад яшчэ больш глыбокую ізаляцыю, а тое і санкцыі. Магчыма, для Беларусі ўзорам будзе рэакцыя Кітаю, які ўстрымаўся ў Радзе бясьпекі ААН пры галасаваньні рэзалюцыі аб незаконнасьці крымскага рэфэрэндуму. Тым ня менш, у Пуціна ў яго прамове знайшлося добрае слова на адрас Пэкіну.

Размовы пра выклікі сусьветнаму сьветапарадку суправаджаюць хіба ня кожны буйны міжнародны крызіс. Але ў дадзеным выпадку, асабліва калі глядзець на рэакцыю Захаду, зьмена правілаў, па якіх жыве сьвет, сапраўды адбываецца.

Параза СССР у «халоднай вайне» ня скончылася ніякім глябальным пагадненьнем, якое б вызначала месца і ролі пераможцаў і пераможаных, новы парадак усталяваўся па змаўчаньні. Менавіта яму Расея і кідае выклік. Якім будзе новы? Прыгадваецца, што ўсе мінулыя — Вэстфальскі мір, Венскі кангрэс 1814 году, Вэрсальскі мір, Ялта-Патсдам — усталёўваліся па выніках вялікіх войнаў.

**www.svaboda.org**

МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

# «ПРАВА ВЫБАРУ» ПРА ВЫНІКІ МЯСЦОВЫХ ВЫБАРАЎ

**Вынікі выбараў дэпутатаў мясцовых саветаў – несапраўдныя, заявілі прадстаўнікі кампаніі «Права выбару» на выніковай прэс-канферэнцыі.**

«Выбарчыя камісія адвольна абыходзіліся з заканадаўствам, - распавёў першы намеснік старшыні Руху "За Свабоду" Юрась Губарэвіч. - У выніку назіраліся фальсіфікацыі, высокі ўзровень ціску на назіральнікаў: іх выдалялі з участкаў, пазбаўлялі акрэдытацыі».

Па словах сустаршыні аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Віталя Рымашэўскага, яны таксама адзначаюць, што змены заканадаўства, прынятыя восенню 2013 года, пагоршылі магчымасці апазіцыйных кандыдатаў для ўдзелу ў выбарах. «Высоўванне і рэгістрацыя кандыдаў праходзілі выключна ў няроўных умовах», - адзначыў ён для БелаПАН.

Назіральнікі, па ягоных словах зафіксавалі, «масавыя маніпуляцыі» з яўкай выбарцаў на большай частцы ўчасткаў, падлік галасоў праходзіў непразрыста, назіральнікі не маглі яго кантраляваць.

«У такіх умовах прадстаўнікі кампаніі "Права выбару" сцвярджаюць, што выбары дэпутатаў мясцовых саветаў не з'яўляюцца справядлівымі, сумленнымі і дэмакратычнымі, а іх вынікі не адлюстроўваюць сапраўднае волевыяўленне грамадзянаў. Мы не прызнаем вынікі гэтай выбарчай кампаніі», — заявіў Рымашэўскі.

«Асноўнай задачай нашай кампаніі было тое, каб на падставе канкрэтных фактаў патлумачыць выбарцам, чаму той кандыдат, за якога яны аддалі галасы, не стаў дэпутатам», - падвёў для сайту Рух.by Юрась Губарэвіч вынікі працы кампаніі «Права выбару» на мясцовых выбарах.

Па ягоных словах, яны збіраюцца даносіць гэтую інфармацыю да выбарцаў з дапамогай рознай інфармацыйнай прадукцыі – і гэта стане наступным этапам для кампаніі «Права выбару».

«Кампанія была досыць дынамічнай і была паспяховай», - заключыў Губарэвіч.




Учора, 23 сакавіка, пасля скančэння галасавання на выбарах дэпутатаў мясцовых саветаў Беларусі, назіральнікі кампаніі «Права выбару» назіралі за працэдурай падліку галасоў на 320 выбарчых участках у 93 акругах. На 191 участку, па іх дадзеных, падлік галасоў не быў ні празрыстым, ні галосным (у тым ліку на 73 з 85 участкаў у Мінску). Пры гэтым, на 183 участках сябры камісіі не паведамлялі старшыні ўголас свае вынікі падліку (так, каб чулі астатнія сябры камісіі і назіральнікі).

Кампанія "Права выбару" праводзіцца на падставе пагаднення дэмакратычных сілаў, якое падпісалі арганізацыйны камітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», грамадзянская кампанія «Гавары праўду!», Партыя БНФ, Рух «За Свабоду», Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), Беларуская партыя «Зялёныя» і арганізацыйны камітэт па стварэнні Партыі свабоды і прагрэсу.

**http://рух.by**

УКРАІНСКА-РАСІЙСКІ КАНФЛІКТ

# ПУЦІН ПАТЭЛЕФАНАВАЎ АБАМУ

**Прэзыдэнт Расеі Уладзімір Пуцін патэлефанаваў 28 сакавіка прэзыдэнту ЗША Бараку Абаму для абмеркаваньня амэрыканскіх прапаноў па пераадоленьні крызісу ва Ўкраіне. Гэтыя прапановы перададзены дзяржсакратаром кіраўніку МЗС Расеі ў Гаазе і распрацаваны сумесна з украінскім бокам і з эўрапейскімі партнэрамі. Пра гэта паведамляе прэс-служба Белага дома.**

Падчас размовы прэзыдэнт Абама прапанаваў, каб Расея дала канкрэтны адказ у пісьмовым выглядзе на гэтыя прапановы. Прэзыдэнты дамовіліся, што кіраўнікі дыпляматычных ведамстваў дзьвюх краін Кэры і Лаўроў сустрэнуцца, каб абмеркаваць далейшыя дзеяньні, інфармуе Белы дом.

Прэзыдэнт Абама зьвярнуў увагу свайго суразмоўцы, што ўрад Украіны захоўвае стрыманы падыход да крызісу і прасоўваецца па шляху канстытуцыйнай рэформы і дэмакратычных выбараў. Абама заклікаў Расею падтрымаць гэты працэс і пазьбягаць далейшых правакацыяў, уключаючы нарошчванне ваеннай сілы на межах з Украінай.

Прэзыдэнт ЗША заявіў прэзыдэнту Расеі, што ЗША працягваюць выступаць на карысьць дыпляматычнага вырашэньня крызісу ў цесным узаемадзеяньні з урадам Украіны і падтрымлівае ўкраінскі народ з мэтай разрадзіць крызіс. Прэзыдэнт Абама даў ясна зразумець, што гэта будзе магчымым толькі тады, калі Расея адвядзе свае войскі і ня будзе рабіць далейшых крокаў па парушэньні тэрытарыяльнай цэласнасьці і сувэрэнітэту Украіны. Амэрыканскі лідэр паўтарыў, што ЗША рашуча выступаюць супраць дзеяньняў, ужо прынятых Расеяй па парушэньні сувэрэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасьці Украіны.

Паводле паведамленьня прэс-службы Крамля, прэзыдэнт Расеі падчас тэлефоннай размовы прыцягнуў увагу прэзыдэнта ЗША да «працяглага разгулу экстрэмістаў, якія беспакарана зьдзяйсьняюць акты запалохваньня ў дачыненьні да мірных жыхароў, уладных структураў, органаў правапарадку ў розных рэгіёнах і ў Кіеве». У гэтым кантэксьце расейскі кіраўнік прапанаваў разгледзець магчымыя крокі міжнароднай супольнасьці па садзейнічаньні стабілізацыі становішча, інфармуе Крэмль.

**"Радыё Свабода"**

БЕЛАРУСЬ - ЕС

# ДАЧЫНЕНЬНІ «ЗАСТАЮЦЦА ЖУДАСНЫМІ»

**Эўрапейская камісія сёньня прэзэнтуе справаздачу аб прагрэсе паасобных краінаў у рамках праграмы «Ўсходняга партнэрства».**

У справаздачы разглядаюцца дасягненьні шасьці краінаў-суседзяў Эўразьвязу — Армэніі, Азэрбайджану, Беларусі, Грузіі, Малдовы і Украіны — а таксама адзначаюцца сфэры, дзе патрабуецца паляпшэньне.

Дакумэнт прапануе ідэі для далейшых крокаў Эўрапейскай камісіі і мае дапамагчы пры разьмеркаваньні 15,4 мільярдаў эўра, якія Эўразьвяз зьбіраецца патраціць у праграмах усходняга і паўднёвага суседзтва ў наступныя сем гадоў.

У лютым краіны Эўразьвязу абмеркавалі гэтак званы «Эўрапейскі пакет» заахвочваньняў для згаданых шасьці краінаў, якія выходзяць за рамкі цяперашніх стымулаў, акрэсьленых у Пагадненьнях аб асацыяцыі.

Грузія і Малдова распачалі працэс падрыхтоўкі да падпісаньня пагадненьняў на саміце ў Вільні летась у лістападзе і маглі б падпісаць іх яшчэ сёлета.

У разьдзеле справаздачы, прысьвечаным Беларусі, паведамляецца што дачыненьні Эўразьвязу зь Беларусьсю застаюцца жудаснымі. Да 232 грамадзянаў Беларусі надалей ужываюцца візавыя забароны і замарожаньне рахункаў. У дакумэнце адзначаецца, што эўразьвязаўская дапамога Беларусі абмежаваная ў аб'ёме і засяроджваецца «прама або ўскосна на падтрымцы патрэбаў насельніцтва і дэмакратызацыі».

ЭЗ адзначае, што агульная рэпрэсіўная палітыка ў краіне працягвалася і на працягу мінулага году, што ўлучае існаваньне палітычных зьняволеных, запалохваньне прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасьці, дробнае цкаваньне, звальненьне з працы, забарону на выезд з краіны для некаторых грамадзянаў, штрафаваньне актывістаў і зьняволеньне іх на кароткія і сярэднія тэрміны.

Брусэль, аднак, прызнае, што назіраюцца і пазытыўныя зрухі ў «супрацоўніцтве Беларусі зь міжнароднай супольнасьцю па асобных праблемах, а менавіта ў справе сьмяротнага пакараньня і вышэйшай адукацыі». Эўразьвяз таксама распачаў на пачатку гэтага году перамовы зь Беларусьсю наконт спрашчэньня візавага рэжыму.

**Радыё "Свабода"**

АНЕКДОТ

Спецыяльная камісія Савета Федэрацыі Расеі вывучае легітымнасьць указа імператара Аляксандра II аб адмене прыгоннага права.

***

Прыезджы пытаецца ў чалавека на Хрышчаціку:
— Скажыце, як трапіць у расійскае консульства?
— Лепш за ўсё гранатамётам.

***

А.Кабаева абурана кажа сяброўцы:
«Слухай, ну што за народ мужыкі. Нічога даверыць нельга. Я ж у Воўкі на 8 сакавіка крэм прасіла, а не Крым! Цяпер баюся нават заікнуцца пра куртку-аляску.

ХАБАРНІЦТВА

# КАНФІСКАВАЛІ МІЛЬЁН ДОЛАРАЎ, ЗАЛАТЫЯ ЗЛІТКІ...

**Ўсім фігурантам крымінальнай справы прад'яўленыя абвінавачванні: службовым асобам - у атрыманні хабараў, прадстаўнікам суб'ектаў гаспадарання - у дачы хабараў.**

У ходзе праведзеных следчых дзеянняў па справе аб хабарніцтве службовых асоб канцэрна «Беллегпрам» канфіскаваныя грашовыя сродкі ў суме больш за 1 мільёна даляраў, залатыя злічкі, два аўтамабілі агульным коштам больш за 130 тысяч долараў, тры кватэры ў горадзе Мінску, мноства дарагой бытавой і аргтэхнікі. Пра гэта паведаміла Юлія Ганчарова, афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта Беларусі.

Прымаюцца ўсебаковыя меры па забеспячэнні кампенсацыі шкоды, нанесенай дзяржаўным інтарэсам, службовымі асобамі канцэрна "Беллегпрам". Праводзіцца работа па накладанню арышту на канфіскаваную маёмасць.

Затрыманы таксама тры хабарадавальніка - кіраўнікі камерцыйных структур, якія ўдзельнічалі ў мадэрнізацыі прадпрыемстваў канцэрна. Прадстаўнікі камерцыйных структур таксама заключаны пад варту.

Ўсім фігурантам крымінальнай справы прад'яўленыя абвінавачванні: службовым асобам - у атрыманні хабараў, прадстаўнікам суб'ектаў гаспадарання - у дачы хабараў.

Як раней паведамлялася, Следчы камітэт пачаў крымінальную справу ў дачыненні да старшыні канцэрна "Беллегпрам" і дырэктара ААТ "Слонімская камвольна - прадзільная фабрыка", якое ўваходзіць у структуру канцэрна.

Затрыманы Міхаіл Сучкоў узначаліў "Беллегпрам" у снежні 2012-га года. Раней ён узначальваў прадпрыемства, якое гучна прагучала ў некалькіх скандалах -- мінскае ААТ "Сукно" . У мінулым годзе прадпрыемства судзілася са сваімі расійскімі мінарыярыямі, а ў снежні мінулага года генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк на нарадзе ў прэзідэнта 10 снежаня раскрыў некаторыя падрабязнасці карупцыйнай справы ў ААТ " Сукно".

Праверка, праведзеная пракуратурай Мінска, ўстанавіла, што двое намеснікаў генеральнага дырэктара прадпрыемства - па вытворчасці і па юрыдычных пытаннях і кадрах - былі прынятыя на працу пры наяўнасці непагашаных судзімасцяў.

Слонімская фабрыка ў мінулым годзе згадвалася кіраўніцтвам краіны ў сувязі з планамі сур'ёзнай перабудовы камвольнай вытворчасці. У прыватнасці, як распавядаў год таму першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка, з ААТ "Камволь" у Мінску частка абсталявання вырашылі перанесці ў ААТ "Сукно" і на прадпрыемства ў Слоніме, а вызваленыя плошчы ААТ "Камволь" перадаць у распараджэнне менскіх уладаў. Паводле слоў першага віцэ-прэм'ера, рэалізацыя гэтага праекта абыйдзецца танней, чым поўная мадэрнізацыя ААТ "Камволь". "Такім чынам, мы будзем развіваць магутнасці ААТ "Сукно" і падымаем фабрыку ў Слоніме, якая будзе рабіць пражу для камвольным, гарнітурнай і трыкатажнай прадукцыі", - сказаў Уладзімір Сямашка. Не выключаецца і ўдзел у праекце замежных інвестараў.

"ЦЕНЯВАЯ СХЕМА"

# PORSCHE, BMW X5, BMW X6 І СОТНІ ТЫСЯЧ ДОЛАРАЎ НАЯЎНЫМІ

**Супрацоўнікі КДБ затрымалі арганізатараў «ценявых» схем, якія дапамагалі прадпрыемствам рэальнага сектара эканомікі ўхіляцца ад выплаты падаткаў і збораў, а таксама легалізаваць незаконныя даходы і выводзіць грошы за межы краіны.**

Абарот грашовых сродкаў на замежных рахунках падкантрольных кампаній толькі ў 2013 годзе склаў больш за 50 млрд рублёў, са спасылкай на прэс - службу КДБ паведамляе TUT.BY.

Ўзбуджаная 3 крымінальныя справы па прыкметах складу злачынства, прадугледжанага часткай 2 артыкула 243 (ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў) КК Рэспублікі Беларусь у дачыненні да ўдзельнікаў злачыннай групы, а таксама кіраўніка аднаго з прадпрыемстваў.

- Узначальваемая імі камерцыйная структура асвойвала бюджэтныя грашовыя сродкі, атрыманыя за будаўнічыя работы па капітальным рамонце жылога фонду на аб'ектах ЖРЭА Партызанскага і Ленінскага раёнаў горада Мінска, а таксама за аздабленне фасада шматкватэрнага дома, што будуецца ў горадзе Жодзіна, - паведамляе прэс - служба КДБ.

Затрыманыя змешчаны ў СІЗА. У іх выключаная камп'ютарная тэхніка, бухгалтарскія дакументы, больш за 400 тысяч даляраў наяўных грошай. Акрамя таго накладзены арышт на дарагія аўтамабілі Porsche Cayenne, BMW X5, BMW X6, нерухомасць на агульную суму больш за 1,9 млн даляраў, а таксама грашовыя сродкі ў агульнай суме каля 300 млн рублёў на рахунках лжэпрадпрымальніцкіх структур.

Прызначаная праверка пытанняў фінансавых узаемаадносін прадпрыемстваў рэальнага сектара эканомікі з ілжэпрадпрымальніцкімі структурамі.

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 30.03.2014 у 15.15**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.